

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkaušćyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46a.
**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 20 цэнтаў, Канада — 20 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна.

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

**ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.**

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 11 (293) — Нядзеля, 11 сакавіка 1956 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 10


# Старая палітыка пры новай тактыцы

**НА МАРГІНЭСЕ XX ЗЬЕЗДУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВ. САЮЗУ**

XX зьезд камуністычнай партыі Савецкага Саюзу, які адбываўся ў Крэмлі ад 1 да 25 лютага сёлета, даслоўна ўва ўсіх краінах Захаду быў сьледжаны зь нязвычайна напружанай увагай. Чакаючы на вынікі зьезду, тры заходнія вялікадзяржавы навет былі спынілі сваю дыпляматычную актыўнасьць і займаліся галоўна сваімі нутранымі справамі.

Прычына такога зацікаўленьня маскоўскім зьездам была ясная, калі ўсьведомім сабе, што гэта быў першы зьезд партыі пасьля сьмерці Сталіна, які мусіў вызначыць галоўныя лініі коэгзыстэнцыйнай палітыкі новага «калектыўнага кіраўніцтва» СССР. Хаця гэтыя галоўныя лініі ня цяжка было наперад прадбачыць, бо яны дастаткова выразна зарысаваліся ў дасюлешняй палітыцы Крэмля, аднак мэтады й тактыка гэтае палітыкі, выяўленыя на маскоўскім зьезьдзе, заслугоўваюць на асаблівую ўвагу. У сваіх адхіленьнях ад сталінскае лініі і ў афіцыяльным асуджэньні сталінізму яны зьяўляюцца проста рэвэляцыйнымі.

**Прынцып «калектыўнага кіраўніцтва» й асуджэньне «культу адзінкі»**

Перш за ўсё быў **афіцыйна асуджаны культ адзінкі** ў сыстэме кіраўніцтва савецкай імпэрыяй, і на ягонае месца вызнаны, як адзіна правільны, **прынцып калектыўнага кіраўніцтва.**

Ужо Хрушчоў у сваёй шасьцігадзіннай прамове, сказанай на другі дзень зьезду, станоўка адкінуў прынцып дыктатуры адзінкі, як ня згодны зь лініяй марксізму-ленінізму, пасярэдня пры гэтым паказваючы, што ён мае на думцы аднаасабовую дыктатуру Сталіна. Іншыя-ж прамоўцы, як Маленкаў, а асабліва Мікаян у нязвычайна войстрай форме заатакавалі Сталіна й ягоную палітыку, якая, паводля іхных выказваньняў, была прычынай многіх грубых і шкодных памылак у дзейнасьці камуністычнай партыі. З гэтае нагоды некаторыя заходнія газэты трапна адцемілі, што Сталін памёр у 1952 годзе, але быў пахаваны толькі ў годзе 1956. Такое войстрае абвінавачаньне Сталіна й сталінізму й аднекваньне ад яго ў сваей цяперашняй палітыцы ягонымі найбліжэйшымі супрацоўнікамі, якія ня так яшчэ даўно толькі яму аднаму прыпісвалі ўсе заслугі для камунізму, выглядае на камэдыю, ня маючую сабе ў палітычным жыцьці прэцэдэнсу.

У сувязі з гэтым было заяўлена гістарычкай Панкратавай, сябрам Акадэміі Навук СССР і рэдактарам часапісу «Праблемы гісторыі», што будзе апрацаваная ў гэтым духу новая гісторыя камуністычнай партыі на месцы абавязваючага дагэтуль камуністычнага эвангельля — «Кароткага курсу гісторыі ВКП(б)» Сталіна, у якім толькі цяпер знойдзена шмат шкодных памылак. Яна, за Хрушчовам і Мікаянам, заявіла, што будуць нанава апрацаваныя таксама й падручнікі гісторыі наагул, зь якіх будуць вычыркнутыя месцы, дзе гаворыцца аб «кульце адзінкі», і іншыя месцы, нязгодныя зь сяняшняй палітычнай лініяй. «Выясьненьне ўсіх нашых няўдачаў, — заявіла Панкратава, — звальваньне віны на ворагаў народу ці ўяўных ворагаў, а так-жа прыпісваньне ўсіх дасягненьняў аднаму чалавеку — абазначае адраджэньне культу адзінкі. Мусім з гэтым скончыць».

**Рэгабілітацыя «ворагаў народу»**

У беспасярэдняй сувязі з асуджэньнем Сталіна была рэгабілітацыя цэлага раду камуністых, зьліквідаваных калісьці Сталінам падчас ягоных чыстак, як ворагаў народу. Гэтак выдатны мадзярскі камуністы Бэля Кун, які пасьля ўпадку кароткатрывалага камуністычнага ўраду ў Мадзяршчыне ў 1919 годзе ўцёк у Маскву і быў адным зь філяраў камінтэрну, падчас вялікай чысткі ў 1937 годзе быў зьліквідаваны. Цяпер-жа, у сувязі з 70-ай гадавінай ягонага нараджэньня, «Правда» зьмясьціла вялікі артыкул ведамага савецкага эканаміста мадзярскага паходжаньня Варгі, у якім Бэля Кун выслаўляецца, як твары камуністычнага руху ў Мадзяршчыне і як «уроджаны рэвалюцыянэр, які выдатна ведаў навуку Маркса». Артыкул аб Бэлі Куне паявіўся ў тым самым нумары «Правды», у якім быў передрук з польскай камуністычнай газэты «Трыбуна Люду» асьветчаньня аб рэгабілітацыі передваеннай польскай камуністычнай партыі.

Як ведама, камуністычная партыя Польшчы, а разам зь ёю камуністычная партыя Заходняй Беларусі й камуністычная партыя Заходняй Украіны былі ў 1938 годзе камінтэрнам разьвязаныя быццам за трацкістаўскія ўхілы й пранікненьня ў іхныя рады агентаў фашызму й польскае дэфэнзывы, а галоўныя правадыры гэтых партыяў, што трапілі ў бальшавіцкія рукі, былі зьнішчаныя. Таксама быў зрэгабілітаваны на зьезьдзе былы сакратар камуністычнай партыі Украіны Косіёр, які ў свой час быў таксама арыштаваны й зьнішчаны. Зрэгабілітаваныя былі й некаторыя іншыя выдатныя камуністыя, якім у сваім часе быў прычэплены ярлык «ворагаў народу».

На маргінэсе гэтай рэгабілітацыйнай камэдыі можна адмеціць, што лёгка рэгабілітаваць тых, якія ўжо ня жывуць, бо, як кажа беларуская прыказка, умерламу кадзіла не паможа.

**Камплімэнты пад адрасам югаслаўянскага Ціты**

Аднак палітычны сэнс гэтых рэгабілітацыяў досыць ясны: апрача падчырк-

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

## ЮБІЛЕЙ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**Чыслом 29 красавіка сёлета выйдзе трохсотны юбілейны нумар «Бацькаўшчыны». Справа дасягненьня трохсотнага нумару тыднёвай газэты, якая на працягу некалькіх ранейшых гадоў была змушаная выходзіць рэдка й нярэгулярна, у ўмовах эміграцыйнага жыцьця мае вялікае нацыянальна-грамадзкае значэньне. Таму рэдакцыя пастанавіла гэты свой юбілей адзначыць выпускам спэцыяльнага вялікага нумару газэты, да ўдзелу ў якім шчыра запрашае шырэйшае кола нашых супрацоўнікаў і чытачоў. Матарыялы для юбілейнага нумару просім прысылаць не пазьней, як да 10 красавіка сёлета.**

**Ёсьць звычаем, што юбілянта бліжэйшыя й далейшыя ягоныя прыяцелі ня толькі вітаюць слоўна, але й прыносяць яму розныя падаркі. Вось-жа й «Бацькаўшчына» будзе ахвотна прыймаць юбілейныя падаркі ў рознай форме, якія ветліва просім накіроўваць на адрас рэдакцыі ў Мюнхэне.**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

# Праўдзівы Пастыр

Ня толькі каталікі цэлага сьвету, але й усе іншыя хрысьціяне, а навет і людзі няхрысьціянскіх веравызнаньняў годна адзначылі падвойны юбілей Сьвятога



Айца Папы Пія XII, юбілей 80-годзьдзя ад ягонага нараджэньня й 17-годзьдзя ад каранацыі на папскі пасад, якія прыпадаюць на месяц сакавік сёлета. Гэтая чэсьць была аддадзеная яму таму, што Папа Пій XII палажыў вялізарныя заслугі ня толькі як галава Каталіцкага Касьцёла і каталіцызму, — хаця і ў гэтай галіне ягоныя заслугі спасярод усіх дасюлешніх каталіцкіх найвышэйшых герархаў зьяўляюцца выключна вялікія і знаходзяць ня шмат прыкладаў паміж ягоных папярэднікаў. Гістарычная роля Папы Пія XII перш за ўсё заключаецца ў тым, што ў сваей бязьмежна самаахвярнай, глыбока ідэйнай і вынікамі нязвычайна плоднай дзейнасьці праявіў сябе як праўдзівы Пастыр усяго чалавецтва. Ён быў далёкім ад рэлігійнага фанатызму й адмежаванасьці ад іншых веравызнаньняў, але стараўся служыць роўна ўсяму чалавецтву бяз розьніцы рэлігійнае прыналежнасьці і пагляда́ў, абдараючы ўсіх глыбокаю хрысьціянскаю любоўю і сеючы ўсюды Хрыстовыя ідэі дабра, праўды й справядлівасьці. Пры гэтым, ён ніколі ня абмяжоўваўся да аднаго толькі прапаведваньня гэтых ідэяў, але заўсёды і ўсюды намагаўся ўводзіць іх у канкрэтныя чыны.

У гэтым хіба і хаваецца той вялікі сакрэт, што сярод усіх цывілізаваных народаў як хрысьціянскіх, так і няхрысьціянскіх цешыцца ён шчырай любоўю і вялікай пашанай. Гэта можам бачыць хоць-бы з таго, што на аўдыенцыях у яго пабывалі высокія прадстаўнікі амаль усіх веравызнаньняў, культураў і расаў. Аб унівэрсальнай пазыцыі Папы Пія XII і вялікім ягоным уплыве добра сьветчыць факт, што ня так даўно быў прыняты ў яго на аўдыенцыі нямецкі пратэстанцкі япіскап Дібэльюс. Гэта ад часоў Лютэра першы выпадак, калі прадстаўнік Пратэстанцкай Царквы быў прыняты Рымскім Папам.

Юбілят, у сьвецкім жыцьці Аўген Марыя Джусэппэ Пачэллі, нарадзіўся 2 сакавіка 1876 году ў культурнай італьянскай сям'і. У 1894 годзе ён паступіў на тэалягічныя студыі, а ў 1899 годзе антыяхійскі лацінскі патрыярх Касэтта высьвяціў яго на сьвятара. У 1917 годзе ён ужо займае становішча апостальскага нунцыя пры баварскім каралі ў Мюнхэне, а ў 1920—1929 гг. зьяўляецца папскім нунцыям у Бэрліне.

З волі Папы Пія XI Аўген Пачэллі быў назначаны дзяржаўным сакратаром Калегіі Кардыналаў, а, пасьля сьмерці гэтага папы, ён выбіраецца папам, як Пій XII. 12 сакавіка 1939 году адбылася ягоная каранацыя на папскі пасад.

У імя Хрыстовых ідэялаў любові бліжняга ён палажыў вялікія стараньні, каб адхіліць вісеўшую ў той час загрозу другой сьветавай вайны, а, калі аказалася ўсё гэта надарэмным, рабіў усё магчымае, каб зьменшыць ейныя жахі нялюдзкасьці й зьнішчэньні. Пасьля падпісаньня пакту Рыбэнтроп—Молатаў, ён зьвярнуўся да ўрадаў Нямеччыны, Польшчы, Ангельшчыны, Францыі й Італіі із спэцыяльным пасланьнем, у якім заклікаў: «Мы зьвяртаемся да вас бязь ніякай староннасьці ані палітычных меркаваньняў, але ў Імя Божае. Мы заклікаем вас на Кроў Хрыста ў імя матак, у імя нявінных дзяцей... што заваяваньні й дзяржавы, пабудаваныя на несправядлівасьці, недастойныя Божага багаслаўленьня».

У першую гадавіну свайго выбару на папу і ў сёмы месяц выбуху апошняе вайны, зьвярнуўся ён да Калегіі Кардыналаў з наступнымі словамі: «Чалавек родзіцца не для нявольніцтва, але для свабоды. Старое паганства рабіла масы людзей інструмэнтам і ахвярамі пэрсанальнай ці калектыўнай тыраніі. У хаосе нашых дзён сьведамасьць боскасьці вымагае ад нас даць людзям спакой і вытрываласьць».

Як падчас усёзьнішчальнай вайны, гэтак і пасьля яе заканчэньня, Папа Пій XII сваёй няўтомнаю працаю й асабістымі ўплывамі прыносіў вялікую дапамогу

**(Заканчэньне на 3-яй бачыне)**

# Напярэдадні Сакавіковага сьвята

Вось ізноў набліжаецца нашае сакавіковае сьвята. Праўда, пакуль некаторыя беларускія асяродкі атрымаюць гэты нумар «Б-ны», дык ужо і сьвята будзе ў іх адсьвяткаванае. Тым ня менш, аднак, тэма, якую тут хочам закрануць, ня тычыцца толькі сёлетняга сьвяткаваньня і кранае ня толькі сьвятканьне Сакавіка, а дзеля таго, лічым, што яна заўсёды актуальная.

Папершае, трэба прызнаць (аб чым ужо пісалася свайго часу ў «Б-не»), што ў мінулым годзе адбыўся нейкі раптоўны зрух наперад у сэньсе масавасьці ўдзелу, стараннасьці падрыхтоўкі й атрыманага эфэкту ў сакавіковых урачыстасьцях. Ува ўсіх беларускіх эміграцыйных асяродках ды навет у такіх пунктах, дзе Беларусаў можна даслоўна на пальцах палічыць, ладзіліся акадэміі, выступы праз радыё, зьмяшчаліся артыкулы й інтэрв'ю ў чужынецкай прэсе і г. д.

Іншая характэрная рыса нашых нацыянальных сьвяткаваньняў ды розных імпрэзаў у мінулым годзе — гэта спробы, часамі навет закончаныя ўдачамі, супольнага наладжваньня гэтых імпрэзаў беларускімі арганізацыямі, якія, стоячы на розных палітычных пазыцыях, адносіліся да сябе няпрыхільна. Праўда, гэткія паадзіночныя спробы рабіліся яшчэ й раней, але вось у мінулым годзе гэтая хваля тактычнага аб'ядноўваньня пракацілася амаль па ўсіх тых асяродках, дзе такія арганізацыі існуюць і дзеяць. Бязумоўна, гэтае пазытыўнае зьявішча ў жыцьці нашае эміграцыі трэба толькі вітаць.

З другога, аднак, боку трэба з сумам сьцьвердзіць, што гэтыя спробы каштуюць шмат энэргіі й высілку паасобным арганізацыям і іхным кіраўнікам, а ў выніку часта ня прыводзяць да нічога, бо ў вапошні мамэнт раптам пагадненьне ўпіраецца ў няістотную драбніцу, якая выносіцца на вышыню рэчы прынцыповае.

У чым-жа разыходжаньне? Ясна, мы ня маем на ўвазе разыходжаньняў між самымі арганізацыямі, як такімі, што стаяць, як ужо было зазначана, на розных пазыцыях: ня маем таксама на ўвазе і такога пагадненьня. дзе ў рэзалюцыях высоўваюцца рэчы, глыбокай сутнасьці якіх самія сябры арганізацыі не разумеюць.

Але калі, скажам, у вадным і тым самым горадзе ладзяцца паралельна дзьве акадэміі з нагоды 25-га Сакавіка? І зьмест абедзьвюх амаль ідэнтычны («перапоўненая заля», «зьмястоўны рэфэрат», «мы на грунцье акту 25-га сакавіка», «закончылася адсьпяваньнем нацыянальнага гімну» і г. д.)? Некаторыя могуць сказаць, што калі арганізацыі стаяць на **розных** пазыцыях, дык якая-ж мова можа быць аб нейкім **супольным** сьвяткаваньні. Усё гэта абсурдальныя апраўдваньні для прыкрыцьця няздольнасьці шырэйшага гледжаньня на беларускую справу. Калі мы маем на ўвазе правядзеньне тае ці іншае супольнае акцыі ці зарганізаваньне супольнае імпрэзы, дык гэта напэўна не стаіць у супярэчнасьці із статутамі зацікаўленых арганізацыяў. Гэтым-жа ніхто сваіх палітычных пазыцыяў ня выракаецца, хіба што толькі у такім выпадку, калі гэтыя пазыцыі толькі й заключаюцца ў тым, каб стаяць асобна, у канкурэнцыі. Можна тады паверыць, што ў некаторых выпадках здараюцца цяжкасьці проста непераможныя, але, на нашу думку, яны крыюцца ў характарах і амбіцыях паасобных адзінак, пераважна кіраўнікоў (ці хаця-б сабе тых, што прэтэндуюць на іх) тае ці іншае арганізацыі, а не ў характары ці пазыцыях арганізацыі, як такое, калі яе прааналізаваць паводля ейнага статуту.

Сьмешна (і як-жа трагічна), калі ў нейкім дэманстрацыйным паходзе мы бачым дзьве асобныя беларускія групы. Чаму? Не дамовіліся, хто мае йсьці сьпераду, а хто ззаду... Справа прынцыповая! У іншым месцы йзноў не дамовіліся, бо, кажуць, адныя «стаяць» на двух кангрэсах, іншыя — на адным. Ды ці толькі гэта...

Нажаль, вельмі часта бываў у нас так, калі ўсё, што ня робіць дадзеная арганізацыя, гэта перадусім з мэтай, каб паказаць, што гэтая арганізацыя жыцьцяздольная, што яна рухаецца, працуе, жыве; з мэтай, каб на чарговым зьезьдзе можна было ў справаздачы пахваліцца сваімі дасягненьнямі, ды паказаць перад рэштай эміграцыйнага грамадзтва — «Глядзеце, вось мы!» У выніку і выходзіць, што для некаторых арганізацыяў беларуская справа не зьяўляецца мэтай. а толькі сяродкам, дзякуючы якому можна нашым суродзічам паказаць сябе ў дадатнім сьвятле.

Ці-ж ня часта ў нас бываюць выпадкі, калі агульна-нацыянальнага характару дасягненьні пэўнае арганізацыі трактуюцца, як асабістыя няўдачы іншай арганізацыяй, якая стаіць на «супрацьлежных пазыцыях», і то, няўдачай таму толькі, што гэтае дасягненьне здабыла «варожая» арганізацыя? Хай якая-небудзь нацыянальная імпрэза адным ня ўдасца, ці-ж іншыя ня будуць з гэтага цешыцца? А ўсе-ж — Беларусы і «стаяць», як самі цьвердзяць на тым-жа самым незалежніцкім прынцыпе.

Праўда, здараюцца групы, якія поўнасьцяй перакананыя, што толькі яны выбралі правільны шлях у грамадзканацыянальнай працы і што ладзіць нешта супольна зь некім, хто не падзяляе іхніх пагляда́ў — гэта амаль зрада беларускае справы. Ня правільна. Іншая справа жыцьцё і праца ўнутры арганізацыі і зусім іншае — беларуская вонкавая праца і рэпрэзэнтацыя. Навонкі ня шмат хто зацікавіцца, да якое партыі ці групоўкі мы належым, але затое бачаць, што мы — Беларусы. Шкада, праўда, што ёсьць і такія адзінкі ці групы, якія карыстаючы з гэтага, пры нагодзе, любяць перад чужымі сфальшаваць навет дадзеныя беларускае гісторыі ці беларускага эміграцыйнага жыцьця, каб толькі давесьці чужынцам у вушы, што вось яны толькі фактычна адзіныя «непагрэшныя» прадстаўнікі беларускага «простага» народу.

Апрача гэтага, як мы ўсе ўжо бачылі тут на эміграцыі, ёсьць і такія выняткі, ці мо лепш — вырадкі-янычары, якія якраз навонкі прэзэнтуюцца Беларусамі, а нярэдка амаль іхнімі «лідарамі», каб гэтым зрабіць сабе пэўны «капітал» у сваіх гаспадароў. Аднак, як дагэтуль практыка паказала, яны нам хоцьмо і шкодзілі, але нашай **агульнай** справы, якая стаіць куды вышэй нашых арганізацыйных ці групавых праблемаў, спаралізаваць не маглі. Тым больш няма патрэбы баяцца сваіх дамарослых «лідараў», якія хоць і апэруюць шляхотнымі клічамі незалежнасьці, аднак часта ў сваёй абмежаванасьці, сьлепаце ня бачаць, дзе запраўды ёсьць беларуская справа, а дзе толькі хваравлівая ці мо абражаная, гэткага-ж тыпу дзеячамі, амбіцыя.

Дзеля таго, калі ідзе аб **вонкавую** рэпрэзэнтацыю, няважна, да якое арганізацыі мы належым, калі толькі гэтая арганізацыя запраўды змагаецца за будучыню Беларусі. Важна, каб, пазбыцца нарэшце гэтае груповае й арганізацыйнае абмежаванасьці на карысьць нашае **агульнае беларускае справы.**

**А. Галубіцкі**

### АД РЭДАКЦЫІ

**Наступны нумар «Бацькаўшчыны» выйдзе падвойным і будзе прысьвечаны 38-ай гадавіне абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі.**

# Старая палітыка пры новай тактыцы

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

неньня быццам злагоджанага курсу савецкай палітыкі й памылак Сталіна, Крэмль меў перад сабой больш яшчэ канкрэтную мэту — рэгабілітацыйнымі жэстамі здабыць большы давер камуністычнага дыктатара Югаславіі Ціты. Ад часу ведамага паломніцтва Булганіна й Хрушчова ў Белград Масква бесьперапынку робіць вялікія натугі, каб вярнуць у свой блёк, а прынамся знэўтралізаваць для Захаду камуністычную Югаславію. Апошні-ж маскоўскі зьезд зрабіў вялікі крок наперад у справе зьбліжэньня між Савецкім Саюзам і Югаславіяй.

Ціта выслаў зьезду цёплы ліст з прыязнымі пажаданьнямі, у якім назваў маскоўскіх камуністых «дарагімі таварышамі», а Савецкі Саюз «сацыялістычнай краінай». З другога боку многія прамоўцы на зьезьдзе біліся ў грудзі, што савецкая палітыка ў дачыненьні да Югаславіі зрабіла цяжкія памылкі. Цікава прыпомніць, што падчас візыты Булганіна й Хрушчова ў Белградзе савецкія кіраўнікі ўсю віну за разрыў Югаславіі з савецкім блёкам звальвалі выключна на Бэрыю. Цяпер-жа, пабачыўшы, што такога тлумачэньня для Ціты недастаткова, віну гэтую ўзялі на сябе.

**Вайна ня ёсьць «няўхільнай», а эвалюцыя можа быць праведзеная «мірным» спосабам**

Галоўныя лініі савецкай замежнай палітыкі былі выказаныя ў прамове Хрушчова. Ён паддаў грунтоўнай рэвізіі ленінскую тэзу, што пакуль існуе капіталізм, **войны зьяўляюцца няўхільнымі.** Гэтая тэза была на Захадзе заўсёды высоўваная для паказаньня няшчырасьці савецкай коэгзыстэнцыйнай палітыкі й прыносіла Маскве шмат клопатаў. Цяпер Хрушчоў асьветчыў, што ад часу Леніна палажэньне грунтоўна зьмянілася. Сяньня ўжо існуе магутны блёк камуністычных дзяржаваў і такі-ж вялікі блёк дзяржаваў нэўтральных, а не адзін Савецкі Саюз, акружаны капіталістычнымі краінамі. Таму **між блёкам камуністычным і блёкам капіталістычным няма неабходнасьці вайны.**

Хрушчоў, а за ім іншыя адкінулі таксама тэзу Сталіна, што рэвалюцыя павінна ўсюды адбывацца **паводля савецкага ўзору,** г. зн. крывава. Савецкія кіраўнікі высунулі цяпер пагляд, што **рэвалюцыя можа адбыцца навет парляманцкім спосабам шляхам перамогі камуністых на выбарах.** Гаворачы аб магчымасьці перамогі камунізму без грамадзянскай вайны, Хрушчоў адцеміў: «Як ведама, у эўрапэйскіх краінах народнай дэмакрацыі ў іншай гістарычнай сытуацыі абыйшлося без дамашняй вайны», бо пераварот быў накінуты вонкавай сілай пры помачы апанаваньня гэтых краінаў савецкай арміяй. Цяпер-жа Хрушчоў адкідае й такі шлях перамогі камунізму, — бо ён распаліў-бы няпрыемную для Саветаў новую сьветавую вайну — а цьвердзіць, што рэвалюцыя можа адбыцца «мірным шляхам».

Выходзячы з гэтага, Хрушчоў навязаў да ідэі народных фронтаў і зьвярнуўся да сацыял-дэмакратаў Захаду з заклікам супрацоўніцтва з камунізмам. Пры гэтым ён выразна падчыркнуў, што ёсьць «магчымым і неабходным супрацоўніцтва таксама й з тымі коламі сацыялістычнага руху, якія прыдзержываюцца іншых, чымся мы, паглядаў у пытаньні пераходу да сацыялізму». Далей ён падчыркнуў, што Савецкі Саюз «шчыра вітае» тых сацыял-дэмакратаў, якія «гатовыя зрабіць усё неабходнае для задзіночаньня нашых супольных натугаў у змаганьні за шляхотную справу абароны міру й інтарэсаў працоўных».

Гаворачы аб міры й коэгзыстэнцыі з капіталістычным сьветам, зьезд не забыўся й пагразіць Захаду, што калі апошні распаліць вайну супраць Савецкага Саюзу, дык вайна гэтая станецца ўжо апошняй для капіталізму. Баёвую прамову на гэтую тэму было даручана маршалу Жукаву. Ён заявіў, што Савецкі Саюз мае такія ракетныя й кіраваныя стрыльны, атамную й вадародную зброю, а так-жа такія магчымасьці для іх перакіданьня, што можа лёгка дасягнуць і бясьсьледна зьнішчыць кажны аб'ект у Амэрыцы.

**Нацыянальная праблема ўсё-ж Ахілесавай пятой...**

Асобную трэба зьвярнуць увагу на пытаньні нацыянальнае палітыкі Савецкага Саюзу, якія выявіліся на зьезьдзе й перад зьездам. І ў гэтай галіне, як і ў іншых, паза новымі фразамі, фактычна нічога новага ня было сказана, хаця гэтыя фразы й маюць не апошнюю вымову. Яшчэ ў канцы мінулага году ў № 16 часапісу «Камуніст» была адгрэбаная даўно ўжо пахаваная здань вялікадзяржаўнага расейскага шавінізму, але разам з тым была паўтораная атака й супраць мясцовых буржуазных нацыяналізмаў. Там пісалася: «Без змаганьня супраць вялікадзяржаўнага шавінізму нельга зьнішчыць канфліктаў між працоўнымі розных нацыянальнасьцяў». А ў часапісе «Партийная жизнь» за кастрычнік 1955 г. камэнтавалася, што «камуністычная партыя вымагае ад камуністых расейскай нацыі выкрываць вялікадзяржаўны шавінізм», але разам з гэтым «партыя ставіць сабе за мэту поўнасьцю перамагчы праявы мясцовага нацыяналізму».

Балюча мы ўжо адчулі, як выглядаюць такія заявы ў практыцы. Гэтак яшчэ ў пачатку НЭП-у на X зьезьдзе РКП /б/ у 1921 годзе быў афіцыяльна прыняты лёзунг: «вялікалзяржаўны расейскі шавінізм — найвялікшая небясьпека на дадзеным этапе». На практыцы, аднак, за гэты «вялікадзяржаўны расейскі шавінізм» дасл оўна ніхто ня быў арыштаваны ў Савецкім Саюзе ў той час, калі за г. зв. мясцовыя «буржуазныя нацыяналізмы» былі арыштаваныя й зьнішчаныя цэлыя масы нацыянальна-культурных дзеячоў нерасейскіх народаў СССР. Калі пасьля першай хвалі арыштаў беларускіх нацыянал-дэмакратаў у 1929 і 1930 гг. Сталін 13 ліпеня 1930 г. на XVI партыйным зьезьдзе паўтарыў тэзу аб «вялікадзяржаўным расейскім шавінізьме», як аб «галоўнай небясьпецы на дадзеным этапе», дык пасьля гэтага ня тольк і не арыштавалі ніводнага з носьбітаў гэтае «галоўнае небясьпекі», ня толькі ня выпусьцілі ніводнага з арыштаваных беларускіх супрацiўнікаў гэтае «галоўнае небясьпекі», але й яшчэ больш пачалі хапаць што раз новых Беларусаў, што бараніліся легальным спосабам супраць абнаглелага наступу расейскага шавінізму.

І на апошнім зьезьдзе Хрушчоў адцеміў, што партыя будзе змагацца з праявамі мясцовых буржуазных нацыяналізмаў, але ў галіне дзяржаўна-адміністрацыйнай паасобныя саюзныя рэспублікі атрымаюць большыя, чымся дагэтуль, правы й кампэтэнцыі. Як потым аказалася, гэтыя «большыя правы й кампэтэнцыі» маюць заключацца ў тым, што ў галіне прамысловасьці цэлы рад рэсортаў, што падлягалі цэнтральным саюзным міністэрствам у Маскве, будуць цяпер перададзеныя ў веданьне рэспубліканскіх міністэрстваў і што ў сувязі з гэтым будуць створаныя некаторыя новыя рэспубліканскія міністэрствы. Але й гэты прапагандовы жэст у бок «малодшага брата» зводзіцца практычна на нішто, калі ўзяць пад увагу, што ўсё пляваньне, як і перад гэтым, будзе праводзіцца ў Маскве. Дык на практыцы ніякага павялічэньня сувэрэнітэту «сувэрэнных» саюзных рэспублік чакаць ня прыходзіцца.

**Роля Хрушчова ў «калектыўным кіраўніцтве»**

З усяго выглядае, што замацаваны на зьезьдзе прынцып «калектыўнага кіраўніцтва» будзе прыдзержывацца ў большай або меншай меры толькі фармальна, бо на абвешчаньне дыктатуры адзінкі сталінскага тыпу Хрушчоў ня чуецца яшчэ дастаткова моцным ды, магчыма, і зь некаторых палітычна-тактычных меркаваньняў такая дыктатура сяньня не ўважаецца за карысную. Але, ня гледзячы на гэта, зьезд паказаў вельмі выразна, што ў «калектыўным кіраўніцтве» ня ўсе ягоныя ўдзельнікі будуць роўнымі, а Хрушчоў іграе й будзе йграць галоўную скрыпку. Такая пазыцыя Хрушчова ня так шмат ужо й розніцца ад дыктатуры адзінкі.

У выбраным на зьезьдзе новым ЦК партыі праведзеныя далёкайдучыя пэрсанальныя зьмены ў тым кірунку, што дасюлешнія прыхільнікі Маленкава ня былі нанава выбраныя, а ўвайшлі ў склад новага ЦК пераважна людзі Хрушчова. Як ведама, **Хрушчоў быў у свой час сакратаром ЦК камуністычнай партыі Ўкраіны, дзе, заслужыўшы правільнага тытулу «ката Украіны», правёў вялікія чысткі і ўсе ключовыя партыйныя становішчы абсадзіў сваймі людзьмі.** Гэта цяпер сталася аднэй з прычынаў, што ў новы ЦК КП СССР Хрушчоў увёў значную колькасьць камуністых з Украіны, як адданых для сябе людзей. На цяперашнім зьезьдзе быў упяршыню створаны ЦК партыі для РСФСР. Такога цэнтральнага камітэту раней ня было, а ЦК КП СССР быў андачасна цэнтральным камітэтам і для партыі расейскай фэдэрацыі. Вось-жа Хрушчоў, апрача становішча сакратара ЦК КП СССР, абняў цяпер і становішча сакратара ЦК КП РСФСР, найвялікшай саюзнай рэспублікі.

Усё гэта паказвае, што, ня гледзячы на прынцып «калектыўнага кіраўніцтва», галоўныя ніці гэтага кіраўніцтва будуць знаходзіцца ў руках аднае асобы — Хрушчова.

**ВЫВАДЫ**

На падставе гэтых кароткіх і далёка няпоўных разважаньняў можна зрабіць некаторыя больш менш ясныя вывады.

Ніякае грунтоўнае зьмены дасюлешняга палітычнага курсу Савецкага Саюзу ў пастановах маскоўскага зьезду ня відаць. Быў асуджаны Сталін і сталінізм, але сталінская палітыка будзе абавязваць і надалей пад зьмененым назовам «калектыўнага кіраўніцтва». Зьмяніўся не палітычны курс, а зьмянілася толькі тактыка.

Гэтая зьмена тактыкі, на нашу думку, выкліканая была некалькімі меркаваньнямі, галоўныя зь якіх наступныя:

**1. Нутраныя патрэбы Савецкага Саюзу.** Выказваньні й пастановы зьезду нядвузначна сьветчаць, што сярод насельніцтва Савецкага Саюзу, асабліва ў ягонай нерасейскай часьці існуе вялікае незадаваленьне і патэнцыяльны фэрмэнт супраць рэжыму. Дзеля гэтага трэба было, між іншым, асудзіць Сталіна за ўсе дасюлешнія няшчасьці, аднавіць аўтарытэт Леніна й ягонай палітыкі, якая ў вялікай часьці народу зьяўляецца папулярнай, ды даць некаторыя дэкляратыўныя запэўненьні аб палёгках у галіне нацыянальнай палітыкі.

**2. Палітыка ў дачыненьні да г. зв. «народных дэмакратыяў» і «нэўтральных» краінаў.** Зьезд выразна паказаў, што Савецкі Саюз ставіць цяпер вялікую стаўку на «нэўтральныя» краіны тыпу Індыі, краінаў Сярэдняга Ўсходу, Паўночнай Афрыкі, а асабліва Югаславіі, а так-жа сваіх сатэлітаў і камуністычнага Кітаю. З гэтаю мэтаю было зроблена рад прыманкавых заяваў пад адрасам гэтых дзяржаваў, праведзеная рэгабілітацыя многіх былых камуністых, зьнішчаных, як «ворагі народу», ды вызнаны прынцып, што рэвалюцыя можа быць усюды праведзеная мірным спосабам.

**3. Коэгзыстэнцыйная палітыка ў дачыненьні да Захаду.** Усе бяз выключэньня тактычныя мерапрыемствы маскоўскага зьезду былі накіраваныя на паглыбленьне палітыкі коэгзыстэнцыі з Захадам, непасрэднай мэтай якой ёсьць: тварэньне народных фронтаў з сацыялістычнымі партыямі, каб пры іхнай помачы правесьці рэвалюцыю «мірным» спосабам, маральнае раззбраеньне народаў Захаду й знаходжаньне больш мяккае мовы зь кіруючымі коламі заходніх дзяржаваў.

Трэба адцеміць, што ўрадавыя колы заходніх дзяржаваў і больш цьвярозая прэса правільна зразумелі запраўдныя інтэнцыі новай крэмлёўскай палітыкі. Але, на жаль, ня мала й такіх, што многія галаслоўныя запэўненьні маскоўскіх уладароў прыймаюць за чыстую манэту. Гэтае апошняе зьявішча можа быць асабліва шкоднае ў сувязі з тым, што цяперашняя савецкая палітыка, у паразуменьні із сталінскай палітыкай, ёсьць шмат гібчэйшая й разумнейшая, а таму й больш небясьпечная для Захаду.

**Л. К.**

# Да пытаньня формулы «найменшае зло»

(Працяг з папярэдніх нумароў)

Перасьлед разгледжаных паглядаў Пакроўскага на канкрэтнае разьвіцьцё Расеі пачаўся, як мы заўважылі вышэй, пры Леніне, потым Сталінам, які, між іншым, запачаткаваў і чыстку тэорыяў «буржуазных нацыяналістых», а ад 1932 г. была ўцягнутая ў гэтае змаганьне і цэласьць камуністычнае партыі. Але афіцыйна школа Пакроўскага трапіла ў няласку ў пачатку 1936 г. У пастанове ЦК ВКП(б) і Саўнаркому СССР ад 26 студзеня чытаем: «Тая акалічнасьць, што аўтары ўпомненых падручнікаў (да 1932 г. паўнейшым і найбольш пашыраным падручнікам гісторыі быў курс Пакроўскага, але ў 1932 г. партыя даручыла Наркомпросу скласьці новыя «марксістоўскія» падручнікі гісторыі СССР — П. В.) працягваюць паслугоўвацца няслушнымі гістарычнымі азначэньнямі і ўстаноўкамі, на якія колькі разоў ужо зьвяртала ўвагу партыя (асабліва ў жніўні 1932 і травені 1934 гг.) і якія маюць у сваей аснове **памылкі Пакроўскага,** Саўнарком і ЦК ня могуць не расцэньваць, як доказ таго, што сярод некаторай часткі нашых гістарыкаў, асабліва гісторыкаў СССР, укараніліся антымарксістоўскія, антыленіскія, у запраўднасьці ліквідатарскія, антынавуковыя пагляды на гістарычную навуку» (Зборнік «К изучению истории», Парт. выд., 1937, б. 21).

Гэтыя «анты-анты» пагляды Пакроўскага і ягоных вучняў на гісторыю партыя вязала зь «незразуменьнем» вучэньня Маркса і адхіленьнем таму ў бок «эканамічнага матарыялізму» і «сацыялёгізму» як інтэрпрэтацыі гісторыі, а таксама з адмаўленьнем «аб'ектыўнасьці» гістарычнае навукі і «ролі адзінкі» ў тварэньні гісторыі. Аднак падобныя «пагрэшнасьці» выплываюць з самое філязофіі пракокаў Маркса і Леніна. Калі

(Працяг на 3-яй бачыне)

**ЯКУБ КОЛАС** 15)

# У палескай глушы

У Абрама была чыстая каморка, куды часамі заходзілі больш важныя госьці, чым простыя цельшынцы, якія звычайна таўкліся ў агульным памяшканьні-карчме, яшчэ па старому звычаю, калі Абрам трымаў шынок. Увайшоўшы ў гэту каморку, Лабановіч раптоўна спыніўся: за столікам сядзела тая самая дзяўчына, якая нядаўна праехала і аб якой ён усё-ж-такі думаў. Яна разглядала карталюшкі, якія падаў ёй стары шынкар, і падрахоўвала лічбіны. Лабановіч ніяк не спадзяваўся спаткаць яе тут і прышоў у такое замяшаньне, што ня ведаў, як яму быць: далей ісьці ці вярнуцца назад. Панна Людміла, — бо гэта была яна, — зараз-жа падмеціла яго нясьмеласьць і замяшаньне, і гэта ёй, як відаць, спадабалася. Яна ўськінула на яго свае сінія вочы. Лёгкая усьмешка бліснула на яе твары. І гэта ўсьмешка як-бы казала: «А я і ведала, што ты да мяне прыдзеш». Панна Людміла была крыху знароўлена кавалерамі, бо ўсе яны ў тутэйшай акрузе лічылі сваім абавязкам аддаць ёй падатак свае кавалерскае ўвагі. Адзін толькі Лабановіч ухіляўся ад гэтага і ўпарта не хацеў пазнаёміцца зь ёю.

«Напэўна думае, што я шукаю спатканьня», — падумаў настаўнік і яшчэ больш замяшаўся.

— Выбачайце! прамовіў ён, крута павярнуўся і вышаў вон з каморкі.

«Як дрэнна і па-дурному вышла ўсё гэта, — разважаў сам з сабою Лабановіч. — Выходзіць так, як-бы я збаяўся яе і зьбег. Фактычна гэта так і ёсьць. І яна напэўна сьмяецца зь мяне. І другім яшчэ раскажа». Ён моцна быў незадаволены сабою, бо трымаўся, як які-небудзь школьнік у прысутнасьці дзяўчыны, што хоць і незнаёма зь ім, але добра ведае яго, як ведае і ён яе. А панна Людміла, застаўшыся адна, шчыра пашкадавала аб тым, што гэты дзівак так неспадзявана зьнік адгэтуль, як неспадзявана і зьявіўся тут. Ёй цікава было паглядзець на гэтага дзікуна і пустэльніка, які яшчэ аж дасюль ня быў у Завітанках. З другога боку, ёй чулася і нейкае зьняважаньне яе дзявочае асобы, бо ніякі кавалер не зрабіў-бы таго, што зрабіў гэты пустельнік, як у сваіх думках называла панна Людміла цельшынскага настаўніка.

Вышаўшы на вуліцу, Лабановіч пачуў нязвычайны крык і лаянку. Супраць старастава й хаты стаяла грамада паляшукоў. У сярэдзіне яе мятушыліся два паляшукі, пабраўшыся загрудкі. І па меры таго, як пасуваліся байцы, расступалася і грамада паляшукоў, даючы ім месца. Зацікаўлены Лабановіч прыбавіў кроку і накіраваўся да грамады. Першы кінуўся яму тут у вочы Лявон Шкурат. Ён быў бледны, бязь шапкі, адна шчака яго была акрываўлена. Але ён моцна трымаў свайго праціўніка, Кандрата Куксу, стрыечнага брата старасты. Тут-жа ў якасьці наглядальніка стаяў і сам стараста.

— Як вам ня брыдка, мужчыны, — зьвярнуўся Лабановіч да грамады. — Дапусьціць, каб людзі крывавілі адзін другога! Разьніміце іх!

Некаторыя з паляшукоў, якія стаялі бліжэй, прыветна ўсьміхнуліся настаўніку, некаторыя падалі яму руку. Другія былі захоплены бойкаю і не зьвярнулі на настаўніка ніякае ўвагі. А Шкурат і Кукса куксілі адзін аднаго і ня знайся. Стараста, як і ўсе іншыя, таксама трымаў строгі нейтралітэт.

— Стараста! Які-ж вы начальнік? — напаў Лабановіч на Рамана: — Як-жа гэта вы дапушчаеце, каб людзі на вашых вачах калечылі адзін другога?

Стараста правёў рукавом па носе, састроіў сваю звычайную кіслую міну і важна прамовіў.

— Ня трэба, панічок, мяшацца. Няхай сабе яны патузаюцца — самі разыдуцца. Умяшайся — горш будзе.

— Госпадзі! Што вы за людзі такія!

Лабановіч, праціснуўшыся скрозь грамаду, апынуўся поруч з байцамі.

— Што вы робіце, дурні?! — крыкнуў ён разьюшаным байцам і стаў паміж імі.

— Ён маю юшку украў, чорт каравы, ды яшчэ біцца са мною будзе?! — крычаў Лявон Шкурат.

— Ты мяне злодзеем называеш, дзяркач ты сьмярдзючы?! Адыдзіся, паніч!

Кандрат Кукса замахнуўся. Лабановіч і сам пачуў нейкую злосьць і таўхануў яго ў грамаду, а сам схапіў Лявона і борзьдзенька адвёў яго ў другі бок. Паляшукі ўзварухнуліся, прытрымалі Кандрата.

— Завошта вы біліся, Лявон? — спытаў настаўнік.

— Юшку маю забраў.

— Якая гэта твая юшка? Калі хочаш ведаць, дык гэта казённая юшка: ты яе са школы ўзяў, як школа будавалася — казаў ўсё яшчэ сярдзіты Кукса.

— А каб яна-ж згарэла была, гэтая праклятая юшка, — сказаў Лабановіч. — Ну, падумайце, паварушыце мазгамі: ці варта гэта юшка, каб з-за яе так калаціцца? Ну, колькі яна каштуе?

— Рубель я заплаціў за яе, — адказаў Лявон.

— Украў ты яе, а ня рубель заплаціў!

— Ну, на табе рубель, супакойся і ідзі дадому. Ляж на печ і ляжы, покі не астыне твая кроў.

Настаўнік дастаў кашалёк, выняў срэбраны рубель і аддаў яго Лявону.

Лявон узяў рубель і пашыбаваў у сваю хату.

— Бярэ рубель, — з зайздрасьцю прамовіў Кукса: — а каб цябе, гад, за жывот узяло.

Лабановіч таксама пайшоў да сябе ў школу, думаючы, што ён зрабіў вельмі добра, і навет ганарыўся сваім учынкам.

Вечарам таго-ж самага дня, калі ўжо было цёмна, з вуліцы зноў пачуўся крык і лямант. Бабы плакалі і галасілі, як па нябожчыку.

— Лявона забілі, панічыку! сказала бабка, ускочыўшы ў пакой.

— Хто забіў!?

— Кукса. Узяў аскабалак і караўуліў Лявона. Як толькі той паказаўся, цопнуў па галаве, — навет ня пікнуў.

Лабановіч выскачыў на вуліцу. Там былі людзі. Сярод вуліцы на брудным сьнезе ляжаў нярухомы Лявон. Над ім галасілі бабы.

— Ня трэба было, панічыку, мяшацца, — аўтарытэтна зазначыў стараста: — у нас гэта ня першыня, паб'юцца і разыдуцца. Набярэцца паганая кроў, трэба-ж яе выпусьціць, і тады ўсё ціха і лагодна.

Лявон, праўда, быў толькі аглушаны, паляшуцкі чэрап быў яшчэ досыць крэпкі, каб Лявон ня мог ачухацца і падняцца на ногі.

**XXV**

Выходзіла так, што стараста казаў праўду. Гэтага зданьня напэўна трымалася і ўсё цельшынскае насельніцтва... І які чорт падбіў яго прыткнуць і свае тры грошы? Каб ня гэты паганы рубель, нічога такога і ня вышла-б. Добра яшчэ, што ўсё гэта так скончылася. А мог Лявон і не падняцца. І так яго на руках у хату занесьлі.

Лабановіч хадзіў па пакоіку і разважаў над гэтым здарэньнем. Яму было крыўдна тое, што сам ён — мужык, а ня ведаў мужыцкіх звычаяў і зрабіў па прыказцы: «Уткні мяне, Божа, куды мяне ня трэба». І, наагул, трэба зазначыць, што ён ня ўмея трымаць сябе зь людзьмі. Узяць хоць-бы яго сустрэчу з паннай Людмілай... Яму сорамна стала перад самым сабою. Ён навет пачаў сам сябе лаяць, кпіць і насьміхацца зь сябе. «Дурань ты, брат, дрэнь! Думаеш, што ты разумны, а ўся цана табе — шчарбаты грош... Кавалер!... Цьфу!» З гэтымі думкамі ён прыпыніўся каля люстэрачка. На яго пазіраў другі Лабановіч, надзьмуты і зьняважаны. «Ух, рыла!» — прамовіў Лабановіч свайму адбітку і адышоўся. Прыпыніўшыся другі раз каля люстэрка, ён ужо глянуў крыху ласкавей на сябе і спагадна прамовіў: «Нічога, брат, не наракай на мяне: як-небудзь будзем жыць на сьвеце». Яму тут

# Нацыянальныя вызвольна-адраджэнскія ідэі ў савецкай беларускай літаратуры й мастацтве

**(Працяг з папярэдняга нумару)**

Адной з фазаў падобнай спэкулятыўнай й нацыянальнай палітыкі бальшавікоў зьявілася «ўзьеднаньне» Заходняй Беларусі з Усходняй у 1939 г. Адразу-ж пасьля акупацыі Чырвонай арміяй Заходняе Беларусі, сюды былі прысланыя групы пісьменьнікаў, музыкаў, мастакоў, заданьнямі якіх было арганізаваць культурную працу на савецкі фасон. Мастакі БССР выступалі перад грамадзкасьцяй з рэфэратамі аб росквіце беларускага мастацтва ў савецкай Усходняй Беларусі, выконвалі свае творы. Акцэнтавалася ўсё беларускае, нацыянальнае, ішла гульня за саборную Беларусь. Калі атмасфэра была дастаткова разагрэтая, у Беластоку адбываецца Народнае Сабраньне з мэтай далучэньня Заходняй Беларусі да БССР. Ня можна ня ўспомніць тутака мастацкай часткі на адкрыцьці Народнага Сабраньня ў Беластоцкім гарадзкім тэатры, куды зь Менску быў пасланы цэлы транспарт выканаўцаў: сымфанічная аркестра і ансамбль песьні й танцу Філярмоніі, салісты Дзяржаўнай опэры.

Калі вялікая танцавальная група выйшла ў прыгожых народных строях і адскакала беларускую «Лявоніху», дык у перапоўненай залі (пераважна беларускім сялянствам) замест воплескаў пачуліся плачы й сьлёзы — настолькі глыбокія былі нацыянальныя пачуцьці. На іх і разьлічвала партыйнае кіраўніцтва, ладзячы гэты палітычна прапагандовы спэктакль.

З асяродзьдзя мастакоў Заходняе Беларусі ў БССР былі накіраваныя пісьменьнікі і паэты: Н. Арсеньнева, М. Танк, П. Пястрак, К. Кірзенка і інш. і музыкі: Р. Шырма, Г. Цітовіч і інш., у адносінах да якіх камуністыя трымаліся (спачатку) вельмі лібэральнай лініі.

У 1940 г. у Маскве праходзіла, ад двух год рыхтаваная, дэкада беларускага мастацтва, якая паказала грамадзтву жыцьцёвасьць і высокую якасьць беларускае культуры, вялікую здольнасьць беларускіх мастакоў. Паводля водгукаў цэнтральнае прэсы, гэта было надзвычайнае здарэньне ў галіне культуры, якое адразу вылучыла Беларусь на адно зь першых і вядучых мясцоў у СССР.

Посьпехі беларускай нацыянальнай культуры маглі ў людзей, што мала ведалі савецкую палітыку й практыку, выклікаць думку аб запраўды дадатніх якасьцях партыйнай нацыянальнай палітыкі ў СССР, на глебе якой ідзе разьвіцьцё нацыянальных культураў. Аднак такая думка была-б далёкай ад рэчаіснасьці. Інтэрнацыяналізм і нацыяналізм заўсёды былі й будуць варожымі ў суаднnetwork міжсобку і ўдачы ў галіне нацыянальнай культуры асягаліся ў вельмі складаных абставінах. Далучэньне Заходняе Беларусі і беларуская дэкада ў Маскве змусіла бальшавікоў ня толькі праявіць цярплівасьць, але у прапагандовых мэтах навет садзейнічаць узвышэньню нацыянальнай культуры. Савецкая ўлада ізноў ішла на адступленьне.

Нацыянальныя сілы ў гэты пэрыяд складалі, на наш пагляд, тры асяродзьдзі: а) тых людзей, што яшчэ ня згубілі надзеі на зьмену савецкай палітыкі ды якія ў вадступленьні бальшавікоў бачылі адзнакі гэтае зьмены (такіх было даволі шмат); б) тых людзей, што даўно перасталі верыць бальшавіком, але звыклі выкарыстоўваць кажнае адступленьне, кажную ўступку, кажную шчэліну, каб рабіць сваю нацыянальную справу; в) і, нарэшце, трэйцяя група людзей — гэта нацыянал-партыйцы, якія, як і ў кажную іншую «кампанію», праводзілі ў жыцьцё актуальныя партыйныя заданьні, аданак якім пытаньне разьвіцьця беларускай культуры было таксама блізкім (гэтая група была невялікай, але займала адказныя становішчы й таму мела вагу). Такім чынам, ня гледзячы на рознасьць думак і перакананьняў, усе вышэй названыя групы зыходзіліся на імкненьні весьці наступ у той час, калі блёк інтэрнацыяналістых адступае. Вось чым тлумачыцца той пасьпяховы ўздым беларускай культуры пасьля нішчэньня яе ў пэрыяды сацыялістычных наступаў.

**(Далей будзе)**

**Мікола Кулікові**ч

## ПРАЎДЗІВЫ ПАСТЫР

**(Заканчэньне з 1-ай бач.)**

ўсім тым, што яе найбольш патрабавалі. Асабліва чулую апеку й вялікую помач ён праявіў для ўцекачоў з за зялезнае заслоны і многія тысячы спасярод іх выратаваў ад прымусовае рэпатрыяцыі.

Вялікую маральную апеку й канкрэтную помач адчулі на сабе й мы Беларусы на чужыне ад Сьвятога Айца асабіста, гэтак і за пасярэдніцтвам Я. Э. кардынала Тысэрана. А ў дзень ягонага падвойнага юбілею і мы Беларусы прылучаемся нашымі глыбокімі пачуцьцямі да ўсіх людзей добрае волі і жадаем, каб Бог даў яму доўгае й шчасьлівае жыцьцё для далейшае працы для дабра і шчасьця ўсяго чалавецтва.

## АФІЦЫЯЛЬНАЕ ПРЫЗНАНЬНЕ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦІ Ў ФРАНЦЫІ

**Францускае міністэрства замежных справаў паведаміла афіцыяльным лістом кіраўніка Ўраду апекі над уцекачамі й беспадданымі, а апошні ў сваю чаргу беларускія арганізацыі ў Францыі, што згодна пастановы францускага міністэрства замежных справаў з дня 29 ліпеня 1955 г. Беларусам будуць выдавацца гэтым урадам ад імя міністэрства замежных справаў пасьветчаньні аб беларускай нацыянальнасьці. Хутка пасьля гэтага стала ведамым, што міністэрства нутраных справаў давяло да ведама аб гэтай пастанове ўсе прафэктуры Францыі.**

Каб зразумець, якое гэта мае для нас вялікае палітычнае значэньне наагул, а ў васаблівасьці для Беларусаў у Францыі, пададзём у наступным нумары «Бацькаўшчыны» дакладней, як нашыя браты ў Францыі змагаліся, каб пазбавіцца нашэньня ў сваіх дакумэнтах сілаю накіданых ім да гэтага часу расейскай, польскай або іншых нацыянальнасьцяў.

# Да пытаньня формулы «найменшае зло»

**(Працяг з 2-ой бачыны)**

ходзіць аб аб'ектыўнасьць гістарычнае навукі, дык Ленін проста заяўляў, што «матарыялізм уключае ў сябе **партыйнасьць,** забавязваючы пры ўсякай ацэнцы здарэньняў проста і адкрыта станавіцца на пункт гледжаньня адпаведнай грамадзкай групы» (У. Ленін, Творы, т. I, б. 288). Таксама гістарычны матарыялізм прызнае, што толькі матарыяльнае жыцьцё грамадзтва зьяўляецца аб'ектыўнай рэальнасьцяй, якое існуе незалежна ад волі людзей. Усякія духовыя задаткі ёсьць толькі ягоным (матарыяльнага жыцьця) адценьнем. Таму няслушна шукаць апошніх прынцыпаў, ключа да пазнаньня законаў гісторыі грамадзтва ў галовах людзей. Іх трэба шукаць у матарыяльным жыцьці грамадзтва, у спосабах вытворчасьці — **у эканоміцы грамадзтва.** А гэтым самым якую ролю можа згуляць адзінка ў гісторыі, калі гістарычны матарылізм цьвердзіць, што законы разьвіцьця грамадзтва зьяўляюцца такімі аб'ектыўнымі, як і законы разьвіцьця прыроды і што людзі ня могуць іх зьменьваць, тым больш тварыць новыя законы? Праўда, марксістыя схамянуліся пасьля супраць такога фатуму, дадаючы, што хаця законы разьвіцьця грамадзтва нязьменныя, аднак людзі здольныя пазнаць іх і выкарыстаць у сваіх інтарэсах.

Вось-жа, пакінуўшы збоку марксістоўскую сафістыку, мусім сьцьвердзіць, што ўспомненыя закіды Пакроўскаму былі няслушнымі і мелі адхілены характар. Як мы спасьцераглі ўжо, Пакроўскі ў разгледжанай працы асуджаў суб'ектывізм расейскіх гісторыкаў, таксама расейскую імпэрыялістычную палітыку, мянуючы яе абсалютным злом, спрычыненым іншым народам. Гэтыя свае пагляды Пакроўскі падкрэсьліваў і пры іншых нагодах. Прыкладам у 1929 г., на Ўсесаюзнай нарадзе гісторыкаў-марксістых, ён публічна дакараў «у зьмякчэньні тонаў» тых нерасейскіх гісторыкаў, якія, «з удзячнасьці» ведама, стараліся паказаць тое «прагрэсыўнае значэньне» для іхніх народаў, спрычыненае прылучэньнем да Расеі. Зразумела, такі «пункт гледжаньня Пакроўскага ахвотна падтрымоўвалі **мясцовыя буржуазныя нацыяналітыя»** (Вопросы истории, 1951 г., № 11, б. 83). Пайменна партыя, засуджваючы Пакроўскага і ягоных вучняў, мела на ўвазе не антымарксістоўскасьць, але антыімпэрыялістычнасьць паглядаў апошніх, што і замацавала афіцыйна сваім другім дэкрэтам супраць Пакроўскага ад 22 жніўня 1937 году. «Факт пераходу Грузіі ў канцы XVIII ст. пад пратэктарат Расеі, — гаварылася ў пастанове журы ўрадавай камісіі, — таксама як факт пераходу Ўкраіны пад уладу Расеі, разглядалася аўтарамі як **абсалютнае зло,** бяз усякае сувязі з канкрэтнымі абставінамі таго часу. Аўтары ня бачаць, што перад Грузіяй стаяла тады альтэрнатыва — або быць падбітай шахскай Пэрсыяй і султанскай Турцыяй, або перайсьці пад пратэктарат Расеі... **Яны ня бачаць, што другая пэрспэктыва была ўсётакі найменшым злом»** (Зборнік «К изучению истории», Парт. выд., 1937 г., б. 38).

Значыцца расейскі імпэрыялізм стаўся прызнаным партыяй найменшым злом, дадатным у гісторыі падбітых народаў. Праф. Пакроўскі, які, аказваецца, не зразумеў вучэньня Маркса-Леніна, ўвайшоў у савецкую гісторыяпіс як «касмапаліт, фальсыфікатар гісторыі вялікага рускага народу» (Вопросы истории, 1949 г., № 2, б. 6). Як «Пакроўскі не зразумеў Кіеўскае Русі. Не зразумеў ён і далейшага ходу гісторыі Расеі» (Против исторической концепции М. Н. Прокоповского, б. 77).

З гэтага часу апраўданьне формулы «найменшае зло» сталася першараднай праблемай савецкае гісторыяпісі. Ім занялся ня толькі расейскія гісторыкі на чале з камуністычнай партыяй, але былі змушаныя апраўдоўваць расейскі імпэрыялізм і нерасейскія гісторыкі. Гэта спрычынілася з аднаго боку да ідэялізацыі гісторыі расейскага народу, і з другога — да фальсыфікацыі гісторыі паасобных нерасейскіх народаў СССР.

**(Працяг у наступным нумары)**

**П. В.**



**Царква-крэпасьць у Маламажэйскаве (Лідчына) з 1407 году**

прыпомніўся адзін чалавек, якога ён ведаў, калі быў яшчэ малы. Гэты чалавек меў звычай размаўляць з сабою самым. Ён гаварыў: «Эх, Паўлючок! Кінь ты ўжо гэтыя згрызоты. Ці ты адзін такі на сьвеце?» Думкі яго пайшлі ў другім кірунку, і няпрыкметна настаўнік зноў пагадзіўся сам з сабою. Да яго зноў вярнуўся добры настрой, і, стоячы каля люстэрачка, ён сам сабе строіў міны, сам сабе падсьмейваўся. Каб хто пабачыў збоку, то напэўна падумаў-бы, што настаўнік крануўся з розуму.

У гэты момант дзьверы з кухні адчыніліся, і ў пакой увайшла бабка.

— Што, бабка, добрага скажаш?

— А нічога, панічыку... Ажыў Лявон.

— Ну, дзякаваць Богу, а то ён мяне вельмі напалохаў. Думаў, што ня ўстане.

— Гэ, панічыку, ці так яшчэ біліся! Бывала, даўней як завядзецца бойка — усё сяло калоціцца. Пабяруць калы і пачнуць матлашыць адзін аднаго. Проста страхоцьце. А гэта, панічыку, глупства!

— З чаго-ж гэта бойка паўставала?

— Панапіваюцца, панічыку, і б'юцца. Ну, вядома — мужыкі. Зімою работы мала, абрыдне так сядзець і пачнуць біцца. Проста калы аб галовы ламаліся... — Бабка змоўкла і другім голасам сказала: — Прыехалі нашы паненкі. Толькі што з разьезду прышлі.

Відаць было, што дзеля гэтае навіны бабка і прышла сюды.

— А я, бабка, заўтра раненька-раненька ў воласьць пайду.

— А можа-б, вам стараста падводу даў?

— Не, бабка, пайду памалу. Цяпер масьляніца, часу ёсьць, можа, і падначую там.

— А што-ж, панічыку, прайдзіцеся. Толькі ножак вашых шкада.

Пайсьці ў Хатовічы Лабановіч надумаўся раптоўна. Яму трэба было так ці іначай адгукнуцца на бабчыну навіну, і ён проста адказаў, што пойдзе ў воласьць, бо, сказаць праўду, вестка аб тым, што вярнуліся суседкі, яго-такі ўсхвалявала. Настаўніку было і прыемна, што Ядвіся тут, блізка каля яго, але ён не хацеў паказаць гэтага. З другога-ж боку, яму таксама трэба паказаць Ядвісі і навет бабцы, дый сабе самому, калі ўжо на тое пайшло, што панна Ядвіся яго ўжо і ня так цікавіць. Апрача гэтага, ён яшчэ не забыў тую крыўду, якую прычыніла яму панна Ядвіся, калі выказвала свой жаль з прычыны разлукі зь Негрусем. Але трэба сказаць, што гэта крыўда цяпер жыла толькі ў памяці, а ня ў сэрцы яго. Хіба можна так доўга трымаць крыўду на Ядвісю? І якая гэта крыўда, каб хто запытаўся? Хіба Ядвіся сказала гэта сумыслу, каб абразіць яго? Але-ж трэба і характар паказаць, і выявіць станоўкасьць і цьвёрдасьць сваю.

Не! Гэта ён добра прыдумаў: што-б там ні было, а ў Хатовічы ён пойдзе.

На гэтай думцы Лабановіч затрымаўся канчаткова.

Вось толькі пытаньне: як рана ён пойдзе ў дарогу? Ці ня лепш пайсьці крыху пазьней і гэтым даць магчымасьць Ядвісі пераканацца, што ён ужо напэўна ведае аб яе прыезьдзе і тым ня меней ідзе ад яе. Ён навет пастараецца пайсьці тады, калі яна будзе стаяць каля акна або выйдзе на двор, а ён пройдзе з такім выглядам, нібы гэта стаіць не яна, а якаянебудзь Параска, да якой яму вельмі мала справы. А калі прыдзецца і спаткацца зь ёю, то што-ж? Ён скажа: «Дзень добры!» Навет і пагаворыць зь ёю аб самых звычайных драбніцах. Так, толькі так!.. Яму стала навет чагось весела.

Назаўтра, як толькі разднела, Лабановіч быў ужо на нагах. Ён колькі разоў паглядаў на дом пана падлоўчага, але там было ўсё яшчэ ціха. Настаўнік хадзіў нецярпліва па сваім пакоіку і курыў адну папяроску за другою, прыслухоўваючыся да гукаў, што ішлі з двара пана падлоўчага. Ён ужо як мае быць нарыхтаваўся ў дарогу: сабраў курэцкія прылады, паставіў у куток свой кій і, выбраўшы зручны момант, вышаў з дому.

Цельшынская школа стаяла на рагу двух вуліц. Адна вуліца, прасторная, роўная, ішла на чыгунку, другая, невялічкая, бегла ў поле і зараз жа канчалася, перайшоўшы ў дарогу. На перасеку гэтых вуліц, каля саменькай школы, стаяў высачэзны крыж. Ён заўсёды прыцягаў да сябе ўвагу настаўніка і рабіў на яго моцнае ўражаньне. Гэты высокі пануры крыж і гэта закінутая сярод палескіх трушчобін школа стаялі, як сіроты, і, здавалася, цесна туліліся адно да другога, як-бы ў іх была адна доля. Лабановіч выйшоў на прасторную вуліцу. Па правую руку да вуліцы падыходзіў частакол двара пана падлоўчага. У куточку дворыка, каля самае вуліцы, стаяла студня. Ступіўшы колькі крокаў па вуліцы, Лабановіч зьгледзеў так добра знаёмую постаць Ядвісі. Зь вядзерцам у руцэ яна скоранька ішла да студні. Нейкая дрыготка прабегла па яго жылах, а сэрца ў грудзях застукала мацней. Як пахарашэла яна за гэтыя тры тыдні. Ён чуў, што яго моцна цягнула да яе. Але ён стараўся быць спакойным і не выказваць ёй таго, што адчуваў у гэту хвіліну.

Радасьць, праўдзівая радасьць адбівалася на твары Ядвісі; гэта радасьць сьвяцілася ў яе цёмных вачах, яна снавалася на яе губках, такіх мілых, такіх прыветных!.. Чорт-бы вас пабраў, дзяўчаты: баламуціце вы нашага брата і годзе!

Але Лабановіч узяў сябе ў рукі. Навет і ценю радасьці не паказаў ён, што ўбачыў дзяўчыну. Параўняўшыся зь ёю, — а Ядвіся стаяла і чакала яго, ён досыць прыветна сказаў:

— Дзень добры!

Панна Ядвіся адказала яшчэ прывятней на яго прывітаньне.

— Ну, як-жа вам гасьцілася? — запытаў Лабановіч. Але запытаў так, як пытаюць тады, калі трэба сказаць хоць штонебудзь: бяз усякага пачуцьця і цікавасьці да таго, аб чым пытаўся.

— Ох, як было весела! — адказала Ядвіся. Яна хацела яшчэ штось сказаць, але ўтрымалася. — А як вы тут жылі?

— Жыў вельмі добра: чытаў, пісаў, вучыў, сам вучыўся, хадзіў гуляць і пачуваўся як ня трэба лепей.

— А куды-ж вы сабраліся?

— Надумаўся да воласьці даведацца.

— І нічога тут не шкада вам пакідаць? — спытала Ядвіся, і вочы яе засьмяяліся хітраю ўсьмешкаю. Сэнс гэтага пытаньня быў ясны для іх абаіх.

Лабановіч на момант апусьціў вочы, потым паглядзеў на Ядвісю:

— Вас мне шкада пакідаць, — адказаў ён ні-то праўдзіва, ні-то з насьмешкаю — разумей, як хочаш.

Яму навет зусім не хацелася цяпер ісьці ў Хатовічы, але варочацца назад ужо ня было як.

— Ну, бывайце здаровы! — пакланіўся ён і пайшоў.

— А вы скора думаеце вярнуцца? — спытала Ядвіся.

— І сам добра ня ведаю. Пабачу там, — адказаў Лабановіч, ужо адышоўшыся на колькі крокаў. Ён яшчэ раз пакланіўся і зачасьціў так шпарка, як-бы хацеў паказаць гэтым, што яму няма калі размаўляць зь ёю.

Увесь час размовы зь Ядвісяю Лабановіч чуў, што робіць нейкую гвалтоўнасьць над сабою, што гаворыць зусім ня тое, што думае і што пачувае сапраўды.

«Чаму я, як злодзей, таюся ад яе і ад людзей? — думаў, ідучы вуліцаю, настаўнік: — Чаму не сказаць ёй, што я так шчыра і так моцна палюбіў яе. і праўда: чаго я так віляю, нашто замятаю свае сьляды, зьбіваю яе з тропу? Нашто гэта лганьнё? Няўжо так робяць і іншыя? Проста няма ў мяне сьмеласьці. Я баюся тае абразы, якая будзе для мяне тады, калі яе сэрца не адгукнецца майму сэрцу... А ўсё-ж-такі гэта каханьне ёсьць нейкая хвароба, боль і пакута. Яно захапляе ўсяго, не дае спакою, параджае нейкія неясныя парываньні і вялікі смутак».

У лесе было ціха і спакойна. Гэты настрой паволі сходзіў і на падарожнага. Ён ішоў, мінаў засыпаныя сьнегам грэблі і балоты і ўсё думаў аб Ядвісі. Як жывы, вобраз яе стаяў у яго ваччу.

Панна Ядвіся прымеціла, што настаўнік за гэты час як-бы асунуўся і пахудзеў. У яго вачах яна расчытала нейкія новыя для яе думкі і нейкую затоеную тугу. І сама яна задумалася, і цень засмучэньня пралёг на яе маладым і сьвежым твары.

Аб Андрэю так многа думала яна ўсе гэтыя дні, да яго так моцна рвалася яе думка.

**(Далей будзе)**

# Да дзесяцігодзьдзя Аб’яднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі

(З прынагоднага рэфэрату)

Кажны год мы падсумоўваем вынікі нашае працы, усе асягненьні й недаходы. Азначаючы дзесяцігодзьдзе АБРФ, неабходна хоць коратка пералістаць балонкі ягонае гісторыі. Адразу пасьля заканчэньня ваенных дзеяньняў, ня гледзячы на ўсе перешкоды й цяжкасьці, Беларусы стварылі свае нацыянальныя арганізацыі, бо грамадой лепш было бараніцца перад бальшавікамі, а таксама й працаваць на карысьць нашага народу. У Нямеччыне арганізуюцца беларускія лягеры ДэПі, не чакаючы навет на прызнаньне беларускае нацыянальнасьці. Там паўстаюць таксама й іншыя арганізацыі, якія сьмела й станоўка бароняць нашыя інтарэсы. У Італіі Беларусы вылучваюцца з 2-га корпусу арміі Андэрса, і зараз-жа там зьяўляюцца свае нацыянальныя арганізацыі. У гэты-ж час паўстае й АБРФ. Дзякуючы беларускаму актыву ў Парыжы, а галоўным чынам старшыні Рады БНР інж. Абрамчыку, сьв. пам. інж. Рыдлеўскаму ды а. Чарняўскаму, паўстае Аб’еднаньне Беларускіх Работнікаў у Францыі пры Францускім Сындыкаце Хрысціянскім. Хоць перад вайною і існавала беларуская арганізацыя ў Францыі («Хаўрус»), яна была зачынена Немцамі й патрабавала часу на ейнае аднаўленьне.

Чаму выбрана супрацоўніцтва з Францускім Хрысціянскім Сындыкатам, адказ будзе просты. Мы жывем у часе, калі йдзе жорсткае змаганьне двух сьветапаглядаў — матарыялістычнага, выражанага найбольш яскрава ў камунізьме, які прапагуе нянавісьць і дамагаецца паняволеньня людзкасьці, — і хрысціянскага, які змагаецца за свабоду й грамадзкую справядлівасьць. Мы заўсёды будзем стаяць на баку хрысціянскае дактрыны, бо вынік гэтае барацьбы наважыць наш лёс, лёс нашых блізкіх і нашага народу. Хрысьціянскія сындыкаты змагаюцца за новы хрысьціянскі лад, які павінен запанаваць у сем’ях, грамадзтвах, дзяржавах і ў міжнародным жыцьці наагул. Таму мы ня можам прыглядацца да гэтай барацьбы збоку.

Тут ёсьць магчымасьць таксама ўзгадоўвацца кадрам беларускіх сындыкалістых, якія ў будучыні будуць бараніць інтарэсы беларускага работніка й селяніна, паляпшаць ягоны быт, а таксама дбаць аб ягоныя духовыя вартасьці. Апрача гэтага, жывучы ў чужой краіне, мы павінны таксама здабыць для сябе сымпатыю, пашану й дапамогу. Гэта мы здабудзем у першую чаргу праз успомненыя арганізацыі.

Праз гады працы й дзейнасьці АБРФ, ягоны характар быў крыху адменным ад сындыкатаў тут, у заходніх краінах. У краёх вольных, незалежных, сындыкаты ў першую чаргу стараюцца палепшваць быт работнікаў, змагаюцца за дастатковую аплату, за зьменшаньне фізычнага высілку работнікаў, за палепшаньне іхных кваліфікацыяў і г. д.

Сябры й кіраўнікі нашае арганізацыі мелі яшчэ большыя абавязкі. Працуючы ў вышэй успомненых рамках, мы не забываліся аб сваім народзе, аб сваёй бацькаўшчыне: мы працавалі для яе — і часта гэтую працу ставілі на першы плян. Нам давялося вясьці ўсьведамляльную працу сярод чужынцаў: мы мусілі выясьняць кім мы зьяўляемся, чаго мы тут апынуліся й чаго мы тут хочам. Мы гаварылі тое, чаго наш паняволены народ ня можа сам сказаць адкрыта. Гэтую працу мы праводзілі заўсёды ў меру нашых магчымасьцяў.

У канцы 1945 году, калі заснаваўся АБРФ у Парыжы, Беларусаў было вельмі мала, апрача невялікага беларускага актыву. Першая ўправа АБРФ старалася дазнавацца, дзе знаходзяцца Беларусы ды сьцягваць іх у Парыж. Парыж быў важным інтэрнацыянальным асяродкам, і таму было неабходна зарганізаваць тут беларускае жыцьцё. Першым галоўным сродкам кантакту была беларуская газэта ў Парыжы «Беларускія Навіны», якая шмат дапамагла ў навязаньні паміж Беларусамі ня толькі ў Францыі, але й ува ўсім сьвеце. Памалу пачалі зьяжджацца Беларусы ў Парыж. Сябрамі нашае арганізацыі былі пераважна жаўнеры беларускіх сілаў. Прыехаўшы зь Нямеччыны шмат хто папаў навет у Францускі Чужынецкі Легіён, уцякаючы ад бальшавікоў. Ім давялося адслужыць па пяць гадоў; некаторыя загінулі ў Індакітаі. Пазьней нашая арганізацыя папоўнілася Беларусамі, што прыехалі з Даніі.

Пачаткі арганізацыі былі даволі цяжкія. Хоць было навязана ўжо шмат кантактаў зь Беларусамі на правінцыі, аднак пераезд у Парыж у той час ня быў лёгкім. Ня было кватэраў, а таксама зьмена дэпартамэнту і зьмена працоўнае карты ў земляробстве на працу ў індустрыі была нялёгкай справай. Управе АБРФ удалося навязаць кантакты зь некалькімі хвабрыкамі ў Парыжы, якія згадзіліся прыймаць Беларусаў без працоўных картаў, а таксама дапамагчы ім гэтыя карты атрымаць. Гэткім чынам, АБРФ удолося ўладзіць ладную колькасьць Беларусаў у Парыжы.

Сябры нашае арганізацыі заўсёды трымаліся разам, і ня падалі духам навет у самых крытычных выпадках. Прывядзем адзін выпадак: трох нашых сяброў затрымалі ў прэфэктуры, ды хацелі прымусова адаслаць. Адзін знайшоў нумар тэлефону інж. Рыдлеўскага і тэлефануе: «Хутчэй ідзеце ратаваць — нас хочуць вывезьці!» І бязумоўна, свая арганізацыя дапамагла.

Прыпамінаецца адзін выпадак, калі адзін зь сяброў прыехаў у Парыж. Я тэлефаную да інж. Рыдлеўскага: «Куды пашлем яго? Ён адказвае: «На мыла». Зразумела, ён меў наўвеце хвабрыку мыла, зь якой мы былі ў кантакце. Але кажны з нас ведае, што значыла падчас вайны быць пасланым «на мыла»...

Новапрыбылыя Беларусы былі ў бальшыні сялянскімі сынамі, без адпаведных кваліфікацыяў у індустрыі. Нашай арганізацыі ўдалося пасдаць шмат нашых сяброў на розныя прафэсіянальныя курсы. Цяпер бадай няма ніводнага сябры, які працаваў-бы некваліфікаваным работнікам. Удалося таксама выстарацца бясплатнае навучаньне францускае мовы для сяброў Аб’еднаньня.

У 1947 годзе, пры дапамозе інж. Рыдлеўскага ды іншых, удалося навязаць лучнасьць зь Беларусамі, якія былі ў так званых кампаніях вартаўнічых на тэрыторыі Францыі. Пазьней яны амаль усе пераехалі ў Парыж. Так пачалося даволі актыўнае жыцьцё нашае арганізацыі. Паўстаюць аддзелы АБФР на Поўначы Францыі, у Тіёнвіль (Мозэль), Крэзо ды Штрасбурзе. Арганізуюцца розныя курсы, як беларусаведа, палітычна-грамадзкія курсы, бібліятэка, спартовая сэкцыя, хор, самадзейны гурток, ладжаньні сустрэчаў з прадстаўнікамі іншых народаў і г. д. У 1947 годзе ў Порыж прыяжджае а. Гарошка, які цесна супрацоўнічае з намі. Ён зарганізоўвае беларускую рэлігійную місію.

АБРФ цесна супрацоўнічае зь іншымі беларускімі арганізацыямі, дапамагае матарыяльна ў выданьні брашураў, беларускай прэсе, як «Беларускія Навіны», «Моладзь», «Бацькаўшчына», «За Волю» і г. д. У 1948 годзе арганізацыя бярэ актыўны ўдзел у сусьветным зьезьдзе прадстаўнікоў беларускае эміграцыі. АБРФ дапамагае таксама Беларусам пераяжджаць на працу ў Францыю зь лягероў ДэПі зь Нямеччыны.

Пачынаючы ад 1949 году, рады нашае арганізацыі крыху радзеюць, бо шмат нашых сяброў эмігруюць у Канаду, Аўстралію, Задзіночаныя Штаты Амэрыкі ды Новую Зэляндыю. З агульнага гледзішча, гэта ўжо ня так вялікая страта, бо прыехаўшы на новыя месцы, яны таксама працуюць на карысьць нашага народу.

Цяпер колькі дадзеных аб нашай арганізацыі. У беларускай прэсе было зьмешчана 190 зацемак аб дзейнасьці АБРФ. У прэсе іншых народаў — каля 45. Адбылося 52 арганізацыйныя сходы, 27 акадэміяў, 24 рэфэраты на розныя тэмы, 2 выстаўкі (кірмашы), 7 мастацкіх выступаў, 5 супольных сьвяткаваньняў рэлігійных сьвятаў, 3 танцавальныя вечарыны і 9 летніх выездаў. Было сабрана сяброўскіх складак 250 тысяч францускіх франкаў; на выдавецкія мэты й дапамогу беларускай прэсе — каля 500 тысяч фр. фр.; на дапамогу сябром — каля 100 тысяч фр. фр.

Гэтак выглядала-б у кароткім нарысе дзесяцігадовая дзейнасьць АБРФ.

На заканчэньне, хацелася-б пажадаць, каб Аб’еднаньне Беларускіх Работнікаў у Францыі, уступаючы ў другое дзесяцігодзьдзе, праводзіла сваю дзейнасьць зь неаслабляльнай сілай, працуючы для свайго, вялікага духам, народу. Мы верым, што АБРФ палажыла й кладзе далей цэглы, будуючы дом, які завецца — Беларуская Незалежная Дзяржава.

**В. Міцкевіч**

# Зь беларускага жыцьця ў Францыі

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ 10-Х УГОДКАЎ АБ’ЕДНАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ РАБОТНІКАЎ

У лістападзе леташняга году Беларусы Францыі ўрачыста абходзілі дзесятыя ўгодкі АБРФ.

У 11 гадзін раніцы Беларусы Парыжу й ваколіц ды делегаты з правінцыі сабраліся на Багаслужбу ў Беларускай Капліцы. Багаслужбу ўшанаваў сваёй прысутнасьцяй Амбасадар Гэру — кіраўнік Бюра Апекі над Уцекачамі ў Францыі.

Папаўдні пачалася ўрачыстая акадэмія. Вялікая заля Сындыкату Францускіх Хрысціянскіх Работнікаў была хутка запоўненая. Сцэна была прыгожа ўдэкараваная Патоняй зь беларускім і францускім сьцягамі паабапал, а сьцены прыгожымі сындыкальнымі эмблемамі адмыслова намаляванымі да сьвята маладой студэнткай мастацтва сп-чняй Івонкай Шыманец і мастаком Наўмовічам. За буфэтам, у нацыянальных вопратках, жанчыны й дзяўчаты рыхтаваліся жвава да пачастунку гасьцей і сяброў.

Сп. Наўмовіч, генэральны сакратар АБФР, адчыніў акадэмію кароткай уступнай прамовай пафранцуску. Ён вітаў гасьцей і сяброў ды прыгадаў прынцыпы й заданьні Хрысьціянскага Сындыкату, ягонае значэньне наагул, ды ў васаблівасьці для нас Беларусаў.

Сп. Паповіч, старшыня чужынецкіх сэкцыяў Хрысьціянскага Сындыкату, ад імя ўсіх сэкцыяў сказаў прамову пафранцуску, а пасьля паўкраінску, ад імя ўкраінскай сэкцыі — выказваючы ад усіх, і асабліва ад украінскай сэкцыі, сваю вялікую радасьць з росту й працы беларускай сэкцыі.

Сп. Булыга вітаў сяброў ад імя правінцыянальных аддзелаў АБРФ і асабліва ад свайго аддзелу — Крэзо.

Сп. Прэзыдэнт Абрамчык, вітаючы юбіляраў ад імя Рады БНР і ад свайго собскага, затрымаўся даўжэй над гісторыяй беларускае эміграцыі ў Францыі наагул. Ён коратка, але выпукла, схарактарызаваў нашую эміграцыю ў Францыі, якая ўзяла свой пачатак ад удзельнікаў арміяў Напалеона (4 палкі лікам каля 6 тысяч ваякаў), затым расказаў пра эміграцыю пасьля паўстаньня Каліноўскага, БНР-аўскую акцыю ў Францыі 1918—1920 гадоў, эміграцыю ад 1920 да 1930 году і сучасную — апошнюю.

Прэзыдэнт падкрэсьліў, якую вялікую ролю ў нашым арганізацыйным жыцьці згуляла АБРФ у найцяжэйшыя для нас пасьляваенныя гады (1945—1946), калі АБРФ першае выдала з усіх нашых эмігранцкіх асяродкаў свой друкаваны ворган «Беларускія Навіны», што на той час зьявіліся першым сыгналам скліку нас, расьцяружаных падзеямі, а таксама праз пасярэдніцтва якой былі знойдзены кантакты з усімі нашымі суродзічамі, ад Скандынавіі да Італіі.

Прэзыдэнт Абрамчык прыпомніў таксама, як пасьля, супольнымі сіламі й пры дапамозе Французаў, былі ўратаваныя ад выдачы данскім урадам бальшавіком нашых 150 суродзічаў; як «Беларускія Навіны» памаглі зарганізавацца нашым братом у Італіі (армія Андэрса), і іншым. Ён заклікаў моцна шанаваць сваю арганізацыю й сяброўства з францускімі й іншымі калегамі для далейшае супольнае акцыі ў будучыні.

Сакратар Цэнтралі АБРФ, сп. Ў. Міцкевіч, прачытаў вельмі цікавы рэфэрат аб гісторыі й сучасным стане АБРФ, які будзе зьмешчаны ў наступным нумары «Бацькаўшчыны».

**М. А.**

### БУДАЎНІЧЫ РУХ СЯРОД БЕЛАРУСАЎ Ў ФРАНЦЫІ

Жыльлёвы крызыс у Францыі, у васаблівасьці ў Парыжы з аднаго боку, а з другога прыродная цяга Беларуса мець свой собскі больш сталы і ад нікога незалежны куток ды спрыт выйсьці з кажнай цяжкай сытуацыі — піхнулі нашых суродзічаў да будаваньня сабе собскіх хатаў.

Даведваемся, што на працягу апошніх гадоў сябры нашых арганізацыяў, пакупляўшы невялічкія дзялянкі зямлі, галоўным чынам у ваколіцах Парыжу, пабудавалі сабе ўжо 8 дамоў. Каля гэтулькі-ж набылі землі й распачалі ці хутка распачнуць будоўлі. Некалькі іншых набылі старыя дамы і адрэстаўравалі іх. Законы пабудовы ў Францыі вымагаюць пэўнага сталага пляну (асабліва ў ваколіцах Парыжу), таму дамы Беларусаў маюць выгляд досыць прыгожых віляў. Гэтае прыгожае пачынаньне выклікала сярод іншых суродзічаў заахвочваючы прыклад.

Як даведваемся, за 2—3 гады будзе ў Францыі каля трыццацёх беларускіх домасобсьнікаў. Ёсьць ідэя залажыць ужо таварыства беларускіх домасобсьнікаў, мэтай якога мае быць памагаць набываць землі ды служыць радамі з здабытага дасьветчаньня.

# З матарыялаў XXII зьезду КП Беларусі

(Пачатак гл. у двух папярэдніх нумарох)

### ЗЬ ЯКАСЬЦЯЙ ГОРШ ЯК З КОЛЬКАСЬЦЯЙ

Гаворачы аб далейшым умацаваньні арганізацыі, першы сакратар падаў лік сяброў і кандыдатаў партыі на Беларусі: 132.417 сяброў і 12.655 кандыдатаў. Дзеля параўнаньня варта прыпомніць, што Грамада ў Заходняй Беларусі ўжо ў першым годзе свайго існаваньня мела 120 тысяч сяброў (гл. С. Гаркуш, «Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада», «Б-на», 1956, № 4). На 11 мільёнаў насельніцтва БССР, пэўна-ж, гэта лік невялікі. Дый з гэтага ладная колькасьць — элемэнт «рэкамэндаваны збоку» (прыкладам, з Расеі), як і сам першы сакратар ЦК Расеец Патолічаў.

У справаздачным дакладзе гаварылася, што на 1 студзеня 1956 г. на прадпрыемствах прамысловасьці, транспарту, сувязі й будоўлях рэспублікі працуе 25,3% і ў вёсцы — 34.9% камуністых. Зразумела хіба кажнаму, што гэтымі «працэнтамі» абсаджаны пераважна кіруючыя і, натуральна, больш даходныя становішчы. Адным словам, партыя пры карыце...

Паводля таго-ж Патолічава, **«два гады таму ў 44,2% калгасаў ня было партарганізацыяў, а цяпер іх няма толькі ў 8,5% калгасаў».** Ад верасьня 1953 г. на Беларусі была праведзена вялікая акцыя абсаджваньня калгасаў і МТС-аў партыйнымі, куды іх было паслана каля **13 тысяч асобаў.** Цяпер на 175 раёнаў рэспублікі 77 раёнаў маюць створаныя партыйныя арганізацыі ўва ўсіх калгасах. Аднак, у дадатках да свае малаколькаснасьці (паводля статуту КПСС, пярвічная арганізацыя можа тварыцца ўжо з трох асоб), значная частка гэтых арганізацыяў складаецца зь «мёртвых душ», як іх звычайна завуць, якія «жывуць» толькі на паперы ды ў статыстыках партыйных зьездаў. Адсюль і рэпліка Патолічава аб беларускіх партыйцах:

**«Трэба аднак сказаць, што гэтая (арганізацыйная) вялікая сіла дрэнна яшчэ выкарыстоўваецца... Бальшыня калгасных партарганізацыяў малалікія... У рабоце з кадрамі дапускаюцца сур’ёзныя недахопы, асабліва ў праверцы выкананьня... Сярод часткі партыйных, савецкіх і гаспадарчых працаўнікоў яшчэ бытуюць бюракратызм, нядобрасумленныя, безадказныя адносіны да выкананьня партыйных дырэктываў... Навет мерапрыемствы, якія рэкамэндуюцца ЦК КПБ, нярэдка дрэнна ажыцьцяўляюцца...**

З энтузіязмам у нашчадкаў Леніна, як бачым, слабавата...

У сувязі з гэтым, ЦК КПБ зрабіў нядаўна некаторыя крокі для ажыўленьня партыйнае дысцыпліны. Двухгадовая Рэспубліканская партыйная школа пераробраная ў трохгадовую; створана таксама Рэспубліканская трохгадовая савецка-партыйная школа, якая будзе даваць сярэднюю агульную й партыйную адукацыю.

Ад гэтых адукацыйных мерапрыемстваў БССР аднак нічога не атрымае, акрамя новых партыйных бюракратаў.

### ЯКУБ КОЛАС АБ... КАМЕНЬНІ

Замест уступу да гэтае тэмы, падамо невялічкі, анэкдатычны проста, эпізод, які здарыўся быў у гісторыі савецкага ладу год 25 таму.

Кажуць, што калі ў 1928 годзе арыштавалі былі за нацдэмаўшчыну ранейшага старшыню Саўнаркому Беларусі Язэпа Адамовіча й выслалі з бацькаўшчыны на Камчатку, дык пасьля некаторага часу яго зрабілі там кіраўніком будаўлянага Акцыянэрнага Таварыства. Адамовіч, маючы, пэўна-ж, дачыненьні з «выкананьнем і перавыкананьнем плянаў», вёў на Камчатцы савецкае будаўніцтва. Па знаёмстве, відаць, на Беларусі, у Бабруйскім лесакамбінаце, ён замаўляў шматкватэрныя дамы для Петрапаўлаўску... І вось «вдоль по батюшке СССР», за 10.000 кілямэтраў, зь Беларусі ў Владзівасток ішлі транспарты — вязьлі зрубы, дошкі, рамы, дзьверы й г. д. У Владзівастоку ўсё гэта перагружалі на параплавы й адпраўлялі беларускі лес на лясістую Камчатку...

А цяпер гляньма, што робіцца ў бальшавіцкім хаосе пасьля таго, як у крываных чыстках Масква «вычысьліла» ўсіх «ворагаў народу», уключна зь Язэпам Адамовічам, ды перавяла народы з будовы сацыялізму на будову камунізму.

☆

Пасьля таго, як дэлегаты XXII зьезду КПБ выслухалі справаздачныя даклады ЦК і Рэвізійнае Камісіі, пачаліся, дзеля захаваньня дэмакратычнасьці зьезду, так званыя «спрэчкі па дакладах». Выступалі розныя старшыні, сакратары й іншыя верхаводы. Гаварылі аб «значных дасягненьнях» (каб не «чарніць» рэчаіснасьці!), аб «сур’ёзных недахопах» (каб не «лякіраваць» сучаснасьці!), ды каб у канцы заявіць, што партыйная арганізацыя прадпрыемства ці калгасу «йдзе як ніколі згуртаванай вакол ЦК КПСС».

На гэтым шэрым і манатонным фоне партыйных «спрэчак» неяк асабліва вызьдзелілася постаць «народнага паэты» Якуба Коласа, які замест гаварыць аб рыфмах і соцрэалізьме ў літаратуры, завёў гутарку аб каменьні. «Сваё выступленьне, — пачаў ён, — я хачу прысьвяціць аднаму, на мой погляд, вельмі важнаму пытаньню, а менавіта — пытаньню ачысткі нашай зямлі ад каменьня.

«З поўвеку таму назад народны паэта Беларусі Янка Купала пісаў у сваіх раньніх творах:

«Горы ды каменьне,
Вузкія палоскі —
Гэта наша поле,
Поле нашай вёскі».

«Вузкія палоскі зьніклі... **Нажаль, засталіся камяні, якія часта пракліналі сяляне-Беларусы ў мінулым і якія сяньня праклінаюць калгасьнікі»...**

Далей Колас, апіраючыся на дадзеныя геалягічнага інстытуту Акадэміі Навук БССР, гаварыў аб засьмечанасьці каменьнем палёў: аб тым, што распаўсюджаньне валуноў на беларускіх палёх дасягае **180 кубічных мэтраў на гэктар;** што такія раёны, як Халопеніцкі, Бягомельскі, Смаргоньскі, Ашмянскі й **шмат якія іншыя настолькі завалены каменьнем, што апрацоўваць зямлю можна толькі коннымі плугамі, дый то ня ўсюды;** ён гаварыў, што, прыкладам, у Бягомельскім раёне вывезьці гэты груз з поля нельга, бо **пракладзеная ў часе вайны вузкакалейка Смалявічы—Бягомель разабрана нейкімі мудрымі саламонамі».**

Колас запрапанаваў **«не ачышчаную ад каменьня зямлю ў некаторай ступені разглядаць, як цаліннную».** Ад сябе дадамо, што гэта было-б зусім нядрэнна: мець цаліну ў сябе пад бокам, у раёне, каб ня ехаць на яе ў... Казахстан!

Прывёўшы ўсе дадзеныя, паэта абвесьціў, што **«праблема ачысткі нашай зямлі ад каменьня — усенародная задача».** Разьвязаньнем гэтае праблемы Колас хацеў-бы разьвязаць і цэлы шэраг іншых таксама ўсё яшчэ «завязаных» Гордыевым вузлом, а менавіта:

**1) «Мы павялічылі-б ураджайнасьць засьмечаных каменьнем палёў сама менш працэнтаў на 50» (!).**

2) «На дарогі туэба зьвярнуць максімалньую ўвагу, бо **мы часта вясной і ўвосень знаходзімся ў палоне бездарожжа.** Шмат у нас такіх дарог, па якіх, як сьпяваецца ў старой песьні, «ні праехаць, ні прайсьці, ні коніка правясьці», і гэта тады, калі паабапал дарогі каменьня хоць заваліся».

3) **Мы далі-б хоць невялікую перадышку нашым шматпакутным лясом» (!).**

З будаўляным матар’ялам на Беларусі вельмі слаба. «Шматпакутны» беларускі лес ня можа ужо латаць дзірак савецкага будаўніцтва, а калі й латае, дык не на Беларусі. На думку паэты, можна было-б выкарыстоўваць камень для некаторых мэтаў, аднак, як відаць із слоў Коласа, савецкае будаўніцтва ніяк ня можа перадезьці цераз парог свае-ж собскае й старое, як сам бальшавізм, «плянавасьці».

**«Нашы будаўнікі,** — гаварыў не бяз горычы паэта, — **завозяць камень для сваіх будаўнічых патрэбаў з Украіны.** Так, напрыклад, за 1955 год спад Канатопу Чарнігаўскай вобласьці было вывезена на 100 тысяч кубамэтраў каменьня. На 1956 год плянуецца завоз 110 тысяч кубамэтраў з раёну Белакаровічы і з Жытомірскай вобласьці 130 тысяч кубамэтраў каменьня. **І гэта ў той час, калі мы ня ведаем, як пазбавіцца ад свайго ўласнага каменьня...** Уся гэтая апэрацыя з прывозам каменьня з Украіны нагадвае, сказаць для прыкладу, падарожжа па чыгунцы зь Берасьця ў Менск праз Адэсу або Кіеў».

«Чаму-б, — ставіць пытаньне Якуб Колас, — будаўнічым арганізацыям не патурбавацца, не падумаць, як нарыхтаваць і як даставіць на месца будоўлі свой беларускі камень? Чаму не спалучыць свае будаўнічыя патрэбы з нарыхтоўкай і дастаўкай каменьня із сваіх беларускіх палёў?».

Але, пытаньне запраўды актуальнае пасьля 36 год маскоўскага будаўніцтва камунізму на Беларусі!..

**Р. Л.**

# У В А Г А!

### УМОВЫ ПАДПІСКІ НА «БАЦЬКАЎШЧЫНУ» Ў 1956 Г.

| Край | На год | На 6 м-цаў | На 3 м-цы | 1 нумар |
|---|---|---|---|---|
| ЗША й Канада | 8 дал. | 4,50 д. | 2,50 д. | 20 цэн. |
| Ангельшчына й Аўстралія | 39 шыл. | 21 шыл. | 12 шыл. | 1 шыл |
| Нямеччына | 14 н. м. | 7,50 нм | 4,25 нм | 30 фэн. |
| Бэльгія | 210 б фр. | 120 б фр. | 75 б фр. | 5 б фр. |
| Францыя | 800 фр. | 450 фр. | 250 фр. | 20 фр. |
| Аргэнтына | 80 пэз. | 45 пэз. | 25 пэз. | 2 пэз. |

Падпішчыкі ў заакіянскіх краёх, якія хочуць атрымоўваць «Бацькаўшчыну» лётніцкай поштай, павінны аплаціць згары кошты перасылкі з разьліку 30 ам. цэнтаў за нумар (падвойныя нумары каштуюць падвойна).




Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі.